

НЕЗАЛЕЖНАЯ ГАЗЕТА ШУМІЛІНШЧЫНЫ

# СЬВІТАНАК

*Беларусь, твой народ дачакаецца Залацістага, яснага дня! М. Багдановіч.*

№11 (320) ЛІПЕНЬ 2022 ГОД


ЭКАНОМІКА

## ЗНОЎ СЯРОД АЎТСАЙДЭРАЎ

**Па выніках першага паўгоддзя вытворчасці малака ў сельгаспрадпрыемствах краіны – Шумілінскі раён аказаўся сярод аўтсайдэраў.**



Так, на сённяшні дзень, паводле інфармацыі Мінсельгасхарча, па выніках работы ў жывёлагадоўлі за студзень-чэрвень 2022 года вытворчасць малака ў сельгаспрадпрыемствах краіны перавысіла 3,8 млн. тон (100,1 працэнта да ўзроўню мінулага года), сярэдні надой малака ад каровы склаў 2745 кг.

У лідэрах краіны па выніках першага паўгоддзя 2022-га Брэстчына па-ранейшаму на першым месцы: сярэдні надой склаў 3388 кг. На Гродзеншчыне і Міншчыне – таксама звыш трох тысяч, а Віцебшчына ў рэйтынгу па прадукцыйнасці дойнага статка зноў апынулася "першая ад канца – да дзвюх тысяч не хапіла 73 кг.

У Гродзенскім, Нясвіжскім, Смалявіцкім, Дзяржынскім, Берастаўіцкім, Іванаўскім, Мазырскім і Брэсцкім раёнах па выніках першага паўгоддзя ў сярэднім ад каровы атрымалі звыш чатырох тысяч кілаграмаў малака, у Шумілінскім і Чавускім раёнах - не болей за тысячу…

Як кажуць: "няма малака – няма і грошай".

**Алесь Шумскі**

МЕДЫЦЫНА

## "ЗАПАСНЫ ТРАНСПАРТ" У ЯКАСЦІ ХУТКАЙ ДАПАМОГІ?

**Нядаўна ў групе "Падслухана Шуміліна" сацыяльнай сеткі ВК з'явілася наступнае паведамленне аднаго фарумчаніна: «Добры дзень, рубрыка "Рэаліі жыцця"! Хочам "пахваліцца" машынамі, якія выдзяляюцца на службу хуткай дапамогі ў Шумілінскай цэнтральнай раённай бальніцы. Таксама прыкладваўся фотаздымак дапатопнага "Уазіка" яшчэ савецкай вытворчасці.**

Гэта паведамленне набрала болей за 18 тысяч праглядаў, каля 30 рэпостаў, шмат каментарыяў. Сярод іх былі асабліва з'едлівыя:

"Затое ў начальства машыны крутыя",

"Да лякарні будуць даязджаць толькі самыя загартаваныя ва ўсіх сэнсах... натуральны адбор..." "у мяне сястру на такой машыне везлі ў радзільню, таму не абурайцеся".

"Усе мікрыкі ўжо больш за год адышлі да Віцебску, усё Шуміліна пра гэта ведае, а ў Шумілінскім ЦРБ ёсць толькі "уаз". Мы выклікалі не раз хуткую і нам так казалі ўсе фельчары. Хутчэй за ўсё з-за таго, што не спраўляюцца, ім далі яшчэ адну "машыну".

"Аўтамабіль выжывання..Толькі ў фільме жахаў здымацца…"

"Што вы хочаце ад бюджэтнай арганізацыі, якія бабкі, такія і тапкі".

Асноўная большасць абуралася тым, што такую тэхніку даўно спісваць пара, а не хворых вазіць па шумілінскіх дарогах.

У адказ дзяржаўная раёнка выдала каментар па гэтым факце галоўнага ўрача Шумілінскай ЦРБ Святланы Лінкевіч. Святлана Уладзіміраўна патлумачыла:

«Аўтапарк хуткай медыцынскай дапамогі, які абслугоўвае Шумілінскі раён, зараз знаходзіцца ў падпарадкаванні Віцебскага абласнога цэнтра хуткай медыцынскай дапамогі. Аўтатранспарт, пра які ідзе гаворка, знаходзіцца на балансе ЦРБ як запасны. Яго пакуль не спісваем з рахунка: машына на ходу, з пройдзеным тэхаглядам. Для штодзённых выездаў неадкладнай медыцынскай дапамогі яна не выкарыстоўваецца, для гэтых мэт служаць сучасныя аўтамабілі. Тым не менш, для самых крайніх выпадкаў мы яго трымаем у рэзерве. З ліпеня 2021 года на неадкладны выезд гэты аўтамабіль выехаў аднойчы».

Так, у выніку атрымліваецца, што галоўны доктар Шумілінскай ЦРБ прызнала факт выезду гэтага "рэзервовага транспарту" да хворага пацыента. Выходзіць, што наведвальнікі сацсетак разносілі не пустыя чуткі ў інтэрнэце, а сапраўдныя рэаліі жыцця. А шумілінцам застаецца толькі спадзявацца, што падобны "рэзервовы транспарт" у бліжэйшым будучыні ўсё ж будзе абноўлены на болей сучасныя аўтамабілі.

**Сяржук Горкі**



УЛАДА

## АСАБІСТЫ ПРЫЁМ

**Невырашальных праблем няма: Вольга Чупрыс правяла асабісты прыём грамадзян у Шумілінскім раёне.**

У ходзе рабочай паездкі ў Віцебскую вобласць намеснік Кіраўніка Адміністрацыі Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь Вольга Чупрыс правяла асабісты прыём грамадзян у Шумілінскім райвыканкаме. Яна адзначыла: ніякага падзелу на пытанні дробныя і глабальныя тут быць не можа.

- Мы асэнсавана здзяйсняем візіты вось у такія аддаленыя кропкі Беларусі, каб наўпрост сустрэцца з насельніцтвам. Людзі павінны мець магчымасць паразмаўляць з кіраўніцтвам Адміністрацыі, данесці свае праблемы, падзяліцца ўражаннямі аб жыцці ў дадзеным населеным пункце. А мы абавязаны ведаць фактычны стан спраў, каб быць на лязе тых падзей, якія працякаюць у глыбінцы. Таму такія сустрэчы і для нас вельмі важныя, і для людзей. Мы адчуваем адкрытасць людзей, і любыя пытанні, якія яны задаюць, - гэта ад жыцця і душы. Таму ніводны з іх нельга пакідаць без увагі.

Такім чынам, на прыём да Вольгі Чупрыс запісаліся 13 чалавек. Былі і такія, хто прыйшоў без запісу. Некаторыя з наведвальнікаў прыехалі з іншых абласцей краіны – Мінска, Магілёва, Віцебска. Для дыялогу з прадстаўніком Адміністрацыі Прэзідэнта прыбылі таксама жыхары Ушач, Полацка, Чашнік.

Бацькі чыноўніка, асуджанага за карупцыйныя злачынствы, прасілі растлумачыць: ці можа іх сын разлічваць на памілаванне або змякчэнне ўмоў адбывання пакарання пад іх даручальніцтва? Ён знаходзіцца ў калоніі ўжо больш за палову прызначанага тэрміну, раскаяўся і ўсё ўсвядоміў, добра характарызуецца. Вольга Чупрыс расказала пенсіянерам аб правах асуджанага і парадку падачы ім самім хадайніцтвы. Адзначыла, што да лёсу кожнага чалавека спецыяльна створаная камісія адносіцца індывідуальна, скрупулёзна вывучае ўсе аспекты справы. І калі асуджаны сапраўды стаў на шлях выпраўлення, ён мае шанец выйсці на волю раней. Бацькам жа ў гэтай сітуацыі пажадала мужнасці, цярпення і здароўя.

Жыхарка Шуміліна Валянціна Быстрова наракае на падтапленне ўчастка сцёкавымі і дажджавымі водамі. Раней яна нікуды не звярталася. Напярэдадні прыёму да яе выехалі прадстаўнікі раённых службаў. Факт падтаплення ў цяперашні час не пацверджаны, але вызначана, што рэльеф участку сапраўды знаходзіцца ніжэй за ўзровень дарожнага пакрыцця. Так што частковае падтапленне пры неспрыяльных умовах надвор'я цалкам рэальна. Як гэтага пазбегнуць?

Праблема ў тым, што з улікам шырыні праезнай часткі дарогі і наяўнасці тут інжынерных камунікацый уладкаваць водаадводную канаву немагчыма. Як варыянт прапануюць выкапаць на агародзе невялікая сажалка. Гаспадыня сцвярджае, што яна ўжо спрабавала заняцца асушваннем самастойна, але беспаспяхова. А ўзнікла праблема не проста так, а пасля будаўніцтва дарогі, якую рабілі гаспадарчым спосабам і без праекта...

– Вось і атрымалася ў выніку: для кагосьці балазе, а для кагосьці – бяда, – рэзюмавала намеснік Кіраўніка Адміністрацыі Прэзідэнта. – Цяпер трэба дэталёва разбірацца і хутчэй знайсці рашэнне. Бо, як сцвярджае Валянціна Рыгораўна, ад патопаў пакутуе не толькі яна, але і ўладальнікі іншых хат.

Старшыня Шумілінскага райвыканкама Сяргей Галынчык паведаміў: спецыяльныя арганізацыі пачалі ўжо работы па абкосу і ачыстцы ад глею бліжэйшых водаадводных каналаў, што ў цэлым дасць магчымасць зменшыць узровень грунтавых вод у гэтым мікараёне. Спецыялісты яшчэ раз выедуць на месца і больш дэталёва вывучаць сітуацыю.

Непаразуменне з аблсельгасхарчам узнікла ў прадстаўніка мясцовай сялянска-фермерскай гаспадаркі. Ён папрасіў дапамогі ў атрыманні льготнага банкаўскага крэдыту, але абласная камісія па пытаннях фінансавання інвестыцыйнай і бягучай дзейнасці адмовілася ўзгадніць план развіцця КФГ. Прычым прычыну, нібыта, ніхто не абгрунтаваў...

Высветлілася, што КФГ, створанае

*(працяг на стар. 2)*

УЛАДА

(пачатак на стр. 1)

ўсяго паўгода таму, не змагло правільна падрыхтаваць дакументы і даказаць будучую эфектыўнасць выкарыстання грашовых сродкаў, якія запытваюцца. Цяпер фермеру яшчэ раз разам усё растлумачылі і паабяцалі: будзе пераканаўчым бізнес план – вырашыцца і пытанне крэдытавання.

З незвычайным зваротам прыйшла жыхарка вёскі Добрына, дзе пражываюць менш за 300 чалавек. Яна паскардзілася на закрыццё бібліятэкі. Раней, як вядома, ужо звярталася па гэтым пытанні да дэпутата Палаты прадстаўнікоў Нацыянальнага сходу Рэспублікі Беларусь Ірыны Паляковай. Але, паводле яе слоў, бібліятэку восьвось усё роўна зачыняць. А бо тамака звыш 190 чытачоў! Так, будынак мае патрэбу ў рамонце, вёска занесена ў маршрут бібліёбуса. І нават тэставыя выезды "бібліятэкі на колах" адбыліся. Але жыхары Добрына хочуць захаваць стацыянарны аб'ект, які стаў агменем культуры ў аддаленай вёсачцы.

Вяскоўцы ў выніку паабяцалі: пакуль і бібліёбус, і сама бібліятэка будуць працаваць паралельна. Прадстаўнікі райвыканкама яшчэ раз сустрэнуцца з насельніцтвам і пашукаюць узаемавыгадныя варыянты вырашэння праблемы. Але ж і жыхары павінны быць больш актыўнымі: чаму б ім не стварыць нейкія клубы па інтарэсах, на аснове самакіравання не ўладкаваць месца агульных культурных сустрэч? У вёсцы ёсць пустыя памяшканні, якія можна выкарыстоўваць для гэтых мэт, а ўлада гатова падтрымаць любую карысную ініцыятыву.

У ходзе прыёму ўзнімаліся разнапланавыя праблемы: нізкая тэмпература ў кватэры, своечасовасць аплаты за здадзенае дзяржаве малако, добраўпарадкаванне могілак, рамонт дарогі, павелічэнне магутнасці электразабеспячэння ў доме, што будуецца, і іншыя. Усе яны ўзяты на кантроль. Вольга Чупрыс падкрэсліла: ніводны зварот не застанецца без увагі, ход выканання будзе кантралявацца. У тым ліку і напрамую праз заяўнікаў.

У гэты ж дзень намеснік кіраўніка Адміністрацыі Прэзідэнта пабывала ў абласным судзе і раённых судах Віцебска. Тэмы, якія абмяркоўваюцца: кадравыя пытанні, аспекты дзейнасці судоў, даступнасці правасуддзя і арганізацыя работы суддзяў. Як станоўчы момант Вольга Іванаўна адзначыла: у Віцебску завяршаецца рэканструкцыя будынка, дзе ў хуткім часе размесцяць суды Чыгуначнага і Першамайскага раёнаў. Цяпер у іх нездавальняючыя ўмовы для працы і прыёму грамадзян. Таму рашэнне аб наваселлі Вярхоўным судом было прынята вельмі своечасова - новы будынак будзе добраўпарадкавана ў адпаведнасці з сучаснымі сусветнымі нормамі судаводства.

**sb.by**

**Пераклад з расейскай рэдактара**

КУЛЬТУРА

# З ГРАМАТАМІ І ДЫПЛОМАМІ

**На днях установы культуры Шуміліншчыны вярнуліся са "Славянскага базару" з граматамі і дыпломамі.**



Бадай што, наша шумілінская дэлегацыя на міжнародным музычным форуме была прадстаўнічай. Шумілінцы актыўна бралі ўдзел у многіх конкурсах і выставах. У сваю чаргу госці фестываля «Славянскага базару» займелі магчымасць пазнаёміцца з шумілінскім краем на раённым панадворку, набыць эксклюзіўныя сувеніры на выставе-продажы раённага Дома рамёстваў, пазнаёміцца з творчасцю шумілінцаў на шматлікіх фестывальных пляцоўках.

Варта ўзгадаць, што прадстаўнікі устаноў культуры нашага раёна годна выступілі у конкурсах, якія праводзіліся ў рамках XXXI Міжнароднага фестывалю мастацтваў «Славянскі базар у Віцебску».

Таксама сёлета найбольш паспяхова выступіў у V Міжнародным фестывалі-конкурсе ўзорны ансамбль барабаншчыц і мажарэтак «Экспрэсія» Шумілінскай дзіцячай школы мастацтваў. Ансамбль быў ушанаваны дыпломам I ступені ў намінацыі «Паказ на подыуме "Барабан" (кадэткі)».

Між тым творчы калектыў дзяржаўнай установы культуры «Шумілінскі раённы Дом рамёстваў» стаў лаўрэатам I ступені ў намінацыі «Рэканструкцыя і сцэнічны паказ вясельнага строю рэгіёна». Апроч таго, у прэзентацыі касцюмаў прыняў удзел народны ансамбль «Гарэзнікі» Обальскай дзіцячай школы мастацтваў.

Дыпламантам стала і Еўгенія Шарыпава (Шумілінскі раённы Дом рамёстваў) Яна была ўзнагароджана дыпломам II ступені ў конкурсе малюнка і дэкаратыўна-прыкладной творчасці «СуперМатрошка» у намінацыі "Дэкаратыўна-прыкладная творчасць".

І гэта яшчэ не ўсё. У абласным конкурсе народнай музыкі і прыпеўкі "А музыкі граюць, граюць…" дыпломам за зберажэнне і захаванне музычнай спадчыны адзначаны народны сямейны ансамбль «Забава» філіяла "Лаўжанскі сельскі цэнтр культуры і вольнага часу". Віншуем нашых землякоў з узнагародамі!

**Алесь Прыбярэжны**

ТЭСЦІРАВАННЕ

# 100 БАЛАЎ ПА РАСЕЙСКАЙ МОВЕ

**У ходзе тэсціравання выпускніца Шумілінскай сярэдняй школы № 1 Аксана Шкляр набрала 100 балаў на цэнтралізаваным тэсціраванні па рускай мове.**

Паводле яе словаў, вынік тэста першай пабачыла маці Аксаны. Першай рэакцыяй дзяўчыны было эмацыйнае: "Такога не можа быць", – адказала яна сваёй маці. Аднак, калі маці даслала скрыншот, дзяўчына нават расплакалася ад шчасця. Прычым адразу адразу падзялілася радаснай навінай з сябрамі і настаўніцай – Наталляй Станіславаўнай Інц, якая падцвердзіла, што "ніколькі не сумнявалася ў яе бліскучай перамозе".

Сама Аксана разлічвала на высокі бал, бо на трох рэпетыцыйных тэстах выніки таксама былі высокія: два разы па 91 балу і адзін – 98. Аднак у тое, што набярэ ўсе 100 балаў – здавалася неверагодным.

Безмоўна, гэта вынік руплівай працы над матэрыялам, амаль кожны дзень: і ў выхадныя, і ў святы. Дзяўчына кажа, што вырашала ўсе заданні зборнікаў па ЦТ, пачынаючы з 2007 года!

Цяпер Аксана Шкляр хоча паступіць у Беларускі нацыянальны тэхнічны ўніверсітэт, бо марыла стаць мытнікам. І сапраўды, дастойныя вынікі ЦТ па англійскай мове і матэматыцы дазваляюць смела падаваць дакументы ў вышэйшую навучальную установу сталіцы. Вось толькі сумна ад таго, што нашы таленавітыя выпускнікі не здаюць так дасканала і бліскуча іспыты па беларускай мове. Хочацца верыць, што ў бліжэйшай будучыні яны будуць вучыцца на прэстыжных пасады па роднай мове.

**Алесь Прыбярэжны**

COVID-19

# САМЫ ЧАС ПРЫШЧАПІЦЦА

**Вучоныя прагназуюць, што гэтай восенню зноў чакаецца чарговы ўсплёск захворвання каранавіруснай інфекцыяй (COVID-19).**

Праўда, пакуль што ў Беларусі ўздыму захворвання няма (згодна афіцыйных дадзеных), наша краіна знаходзіцца ў гэтак званым "міжэпідэмічным перыядзе". Але па дадзеных Сусветнай арганізацыі аховы здароўя, сітуацыя з ростам захворвання ў іншых краінах няўхільна пагаршаецца. Лічбы насцярожваюць: за мінулы тыдзень па зарэгістраваных новых выпадках тыдзень да тыдня ў ЗША +5%, Германія +23%, Бразілія +37%, Італія +61%. А гэта азначае, што наступствы пандэміі непазбежна закрануць і Беларусь, таму трэба загадзя прымаць меры.

Лекары ў Беларусі лічаць, што ў гэтыі выпадку неабходна вакцынацыя.

Галоўны ўрач Шумілінскай цэнтральнай раённай бальніцы Святлана Лінкевіч тлумачыць, каму і якой вакцынай варта прышчапіцца і якім прэпаратам прайсці рэвакцынацыю:

– Міністэрства аховы здароўя рэкамендуе ўсім, асабліва людзям з груп рызыкі, актыўна рэвакцынавацца. Вакцыны і для поўнага курсу, і для рэвакцынацыі (бустэрызацыі) дастаткова. У наяўнасці ёсць «Спадарожнік V», «Спадарожнік Лайт», кітайская вакцына «Vero Cell».

Па стане на 15 ліпеня ў Шумілінскім раёне поўны курс вакцынацыі прайшлі 70,15 % (11 800 чалавек), бустэрызацыі – 31,45% (3711 чалавек)».

Вакцынавацца можна ў паліклініцы ЦРБ у прышчэпачным кабінеце 1.11 (першы паверх паліклінікі) ў будні – з 8.00 да 16.00, у суботу – з 9.00 да 14.00. Тэлефон для даведак 5-25-96. Таксама прышчэпку зробяць ва ўсіх амбулаторыях па месцы жыхарства ўрачы агульнай практыкі.

Нагадаем, што асноўная (пярвічная) вакцынацыя супраць COVID-19 – гэта курс вакцынацыі, які праводзіцца пацыенту ўпершыню. Бустэрная вакцынацыя (рэвакцынацыя) – гэта курс вакцынацыі, які ўключае ўвядзенне адной дозы вакцыны і праводзіцца пацыенту праз 6 і больш месяцаў пасля асноўнай (пярвічнай) вакцынацыі і (або) раней праведзенай бустэрнай вакцынацыі.

«Асноўная (пярвічная) вакцынацыя для асоб 12-17 год і цяжарных складаецца з дзвюх доз «Vero Cell» (Кітай), – зазначае Святлана Лінкевіч. – Для асоб 18 год і старэй – з адной дозы «Спадарожніка Лайт» ці дзвюх доз вакцыны «Спадарожнік V», «Vero Cell» (Кітай) ці «КовіВак».

Бустэрная вакцынацыя супраць COVID-19 праводзіцца асобам 18 гадоў і старэй з выкарыстаннем вакцын «Спадарожнік ЛАЙТ» ці «Спадарожнік V»».

Бустэрная вакцынацыя праводзіцца ў наступным парадку:

пасля скончанай асноўнай (пярвічнай) вакцынацыі, праведзенай вакцынамі «Спадарожнік V», «Vero Cell», «КовіВак», выкарыстоўваецца вакцына «Спадарожнік ЛАЙТ»;

пасля скончанай асноўнай (пярвічнай) вакцынацыі, праведзенай вакцынай «Спадарожнік ЛАЙТ», выкарыстоўваецца кампанент 2 вакцыны «Спадарожнік V»;

пасля першай бустэрнай вакцынацыі, праведзенай вакцынай «Спадарожнік ЛАЙТ», выкарыстоўваецца кампанент 2 вакцыны «Спадарожнік V»;

пасля першай бустэрнай вакцынацыі, праведзенай вакцынай «Vero Cell», выкарыстоўваецца кампанент 1 вакцыны «Спадарожнік V» або «Спадарожнік Лайт»;

пасля другой бустэрнай вакцынацыі, праведзенай кампанентам 2 вакцыны «Спадарожнік V», выкарыстоўваецца кампанент 1 вакцыны «Спадарожнік V»;

пасля другой бустэрнай вакцынацыі, праведзенай кампанентам 1 вакцыны «Спадарожнік V», выкарыстоўваецца кампанент 2 вакцыны «Спадарожнік V».

Бустэрная вакцынацыя супраць COVID-19 у перыяд цяжарнасці і груднога кармлення праводзіцца з выкарыстаннем вакцыны «Vero Cell».

Вакцынацыя праводзіцца пасля інфармавання пацыента. Яна можа быць зроблена пасля выздараўлення пацыента ў перыяд, які вызначаецца цяжкасцю цячэння вострага захворвання, у тым ліку перанесенай COVID-19, і складае 2-8 тыдняў пасля выздараўлення. Пасля перанесенага захворвання ў лёгкай форме вакцынацыя можа праводзіцца не раней, чым праз 2 тыдні пасля выздараўлення. Калі захворванне перанесена ў сярэдняцяжкай форме, то вакцынацыя можа праводзіцца не раней, чым праз 4 тыдні, у цяжкай форме – не раней, чым праз 6 тыдняў. Калі пацыент перанёс цяжкую форму захворвання з ускладненнямі, то правядзенне вакцынацыі магчыма не раней, чым праз 8 тыдняў пасля выздараўлення.

Медыкі лічаць мэтазгодным выконваць мінімальны інтэрвал у 2 тыдні паміж увядзеннем вакцыны супраць COVID-19 і любой іншай вакцыны.

**М. Амбросаў**

АСОБА

# АПОШНЯЕ СЛОВА ЗЬМІЦЕРА ДАШКЕВІЧА НА СУДЗЕ

**Змітра Дашкевіча адправілі ў калонію на паўтара года. Ягоная жонка Наста Дашкевіч атрымала тры гады «хатняй» хіміі. У Дашкевічаў чацьвёра непаўгадовых дзетак. Апошняе дзіця з'явілася месяц таму.**



Вырак агучылі сёння ў судзе Маскоўскага раёна. Па версіі следства, Дашкевічы бралі ўдзел у акцыі пратэсту 23 жніўня 2020 года ў Мінску.

Абодва адмовіліся даваць паказанні і прызналі толькі тое, што прысутнічалі на маршы ў той дзень.

Нагадаем, што пракурор запытваў для мужа і жонкі па паўтара года калоніі кожнаму.

У Зміцера і Насты чацвёра дзяцей.

Вось што сказаў у сваім апошнім слове Дашкевіч на судзе 13 ліпеня:

«Канечне, я разумеў, што мяне чакае, але тое, што я пачуў ад пракурора, гэта вышэй за разуменне.

Ісус даў нам уладу адпусціць грахі чалавеку ці пакараць. Які павінен быць грэх, што маці чатырох дзяцей, немаўлятка неданошанага, просяць пасадзіць у турму?

Я часам задаю сабе пытанне, што думаюць гэтыя людзі, калі просяць выносіць прысуды. Было б прасцей, каб мы бачылі перад сабой звяроў. А так яны ходзяць, усміхаюцца. Следчыя, якія пішуць гэтыя справы, просяць прабачэння, усьміхаюцца, цукеркі носяць на закрыццё справы.

Летась я стаяў, калі да мяне падышла дзяўчына са слязамі на вачах. Кажа: «Вось даведалася, што вы тут стаіце, прыйшла папрасіць прабачэння». Я не зразумеў, пра што яна гаворыць. Кажа: «Тата мой у 2004 годзе даў вам 14 сутак, памятаеце?» А я вельмі добра запомніў, таму што гэта быў адзіны выпадак, калі мне 14 сутак давалі. І вось праз 17 гадоў да мяне падышла дачка суддзі і сказала: «Прабачце». Напэўна, адзін з самых шчымлівых момантаў за гэтыя больш чым 20 гадоў. Я не пасьпеў у яе запытаць, але напэўна яна размаўляла з татам, тата думаў пра гэта ўсе гады. Даючы мне 14 сутак, разумеў, што ён робіць беззаконне. Нават 14 сутак, хоць у той момант я ня вельмі расстроіўся б і 14 гадам. А тут па паўтара мы года просім матулі з немаўляткам на руках.

Што адбываецца зараз, немагчыма зразумець.

Калі падчас арышту мяне білі пры маёй жонцы цяжарнай і казалі: «Что говорит этот человек? Пусть говорит нормально. Пусть нормально разговаривает».

Калі везлі ў машыне, гэты губопавец сказаў: «Я б цябе знішчыў толькі за тое, што ты дзяцей...» Я кажу: «Паслухай, што я раблю ня тое?» Ён: «Ну вось лісты пішаце, мы пазнаходзілі лісты, далучылі да крымінальнай справы». Знайшлі лісты, якія дзеці нашыя пісалі Марыі Калеснікавай — «Маша, мы молімся за цябе, мы любім цябе». Вось гэта злачынства — дзеці пішуць лісты палітвязням.

Калі мяне арыштоўвалі на Акрэсціна па крымінальнай справе, таксама губопаўцы смяяліся: «Жонка будзе нараджаць у турме». Я думаў, што гэта самы страшны дзень у маім жыцці, але сёння, напэўна, яшчэ страшнейшы.

Настачка, прабач мне, што я цябе ў гэта ўцягнуў. Ня мог уявіць ніколі, што такое можа з намі адбыцца.

Я ўвесь час развзажаў, што я нясу гэты крыж, але я ня мог падумаць у страшным сне, што я ўскладу гэты крыж на цябе.

Даруй мне, што я так мала думаў пра цябе.

Я кахаю цябе і малюся за цябе і за нашых дзетак, за неданошанага Даніільчыка нашага (плача).

Ты святая жанчына. Я ня ведаю такіх . Даруй, што я падвёў цябе...

Я не разумею, што адбываецца. Людзі з вышэйшымі юрыдычнымі адукацыямі лічаць, што злачынца — гэта той, хто супраць гвалту выйшаў, а ня той, хто робіць гвалт. Злачынцамі яны лічаць таго, хто хоча праўды, а не таго, хто кажа «Часам не да законаў». Спадзяюся на Божую волю, хоць я не разумею, што адбываецца, скажу вам так.

У тым, што такая сістэма можа існаваць, няма сумневу. Я проста зычу вам, суддзі, пракуроры, падумаць пра душу сваю.

Я заўсёды кажу на судах (хоць гэта і бессэнсоўна): Ісус Хрыстос кажа — што ты дасі за душу сваю, калі прыйдзе дзень суду справядлівага? Што ты дасі за душу сваю, калі будзе суд сапраўдны? Вы назвалі сябе судом. Бог называе сябе судом. Імя Бога — суддзя. І я адказваю: прыйшоў суддзя і судзіў мяне справядліва за тое, што выйшаў 23-га з дзецьмі і раздаваў буклеты «Малітва за Беларусь», Бібліі раздаваў. У дзень сапраўднага суду вы нічога не дасьцё за сваю душу. І дай Бог, каб вашы дзеці праз 17 гадоў ці праз 17 месяцаў, ці вы самі прыйшлі і сказалі: «Прабач».

І, бачыць Бог, не жадаю нікому з вас зла.

Адзінае, каб вы трошку задумаліся, што вы робіце, ці ёсць нешта, што б вы не зрабілі, калі вам загадаюць, ці ёсць для вас нейкія межы"...

**www.nv-online.info**

«ВЕЛИКИЙ КАМЕНЬ»

# ГРАНДИОЗНОЕ ФИАСКО, КОТОРОЕ МАСКИРУЮТ СЛОВАМИ «ПРОЕКТ ОКУПИЛСЯ»

**Глава Администрации белорусско-китайского индустриального парка напомнил всем о существовании «Великого камня» громким заявлением: «Для страны мы уже окупили этот проект». «Салідарнасць» объясняет, почему эти слова, вероятно, далеки от истины, а также почему индустриальный парк следует считать фиаско и уже бесперспективным проектом.**

Вот что именно сказал в эфире СТВ глава Администрации белорусско-китайского индустриального парка Александр Ярошенко:

— Сами прямые бюджетные вложения нашей страны составили порядка 36 миллионов долларов. Мы получили уже больше 40 миллионов. То есть для страны мы уже окупили этот проект.

Но более детально взглянуть на общую картину позволяет другое недавнее заявление — первого заместителя гендиректора «Компании по развитию индустриального парка» Кирилла Коротеева.

Он привел следующие цифры. Со времени создания «Великого камня» инвестиции в основной капитал составили $760 млн: 36 млн — бюджетные средства Беларуси на внешнюю инфраструктуру (эту сумму и назвал Ярошенко), 60 млн — китайское финансирование объектов технико-экономической помощи, 297 млн — инвестиции «Компании по развитию парка», 367 млн вложили инвесторы-резиденты.

Обратим внимание на сумму в почти $300 млн, которые инвестировала «Компания по развитию парка». Это совместное закрытое акционерное общество, одним из крупнейших учредителей которого выступает Республика Беларусь.

Точно неизвестно, сколько денег через эту структуру власти потратили на «Великий камень», но при общих вложениях СЗАО в $300 млн, можно догадаться, что сумма немаленькая.

Но, как видим, чиновники предпочитают рассказывать лишь о $36 млн, потраченных на инфраструктуру напрямую. Выглядит это как манипуляция с целью преуменьшить гостраты на «Великий камень».

Кстати, убыток «Компании по развитию парка» по результатам 2020 года составил 54 миллиона белорусских рублей, а по результатам 2021-го — более 22 миллионов.

Почему «Великий камень» следует считать грандиозным провалом и уже бесперспективным проектом?

Для ответа на первую часть вопроса можно вспомнить, какие цели изначально ставились перед проектом. В 2012 году планировалось, что в парк потекут многомиллиардные инвестиции, здесь будут создаваться высокотехнологичные производства, а продукция будет экспортироваться на рынки Евросоюза и ЕАЭС — что озолотит Беларусь.

***Когда просчитывались результаты «Великого камня», мы полагали, что Беларусь только от экспорта продукции из этого парка получит приток валюты порядка $50 млрд. Александр Лукашенко, 2017 год***

Сравним эти планы с достигнутыми на данный момент экономическими показателями: за прошлый 2021 год предприятиями парка впервые (!) получена годовая суммарная чистая прибыль. Составила она мизерные 13,9 миллионов рублей. И это спустя десять лет после начала создания индустриального парка.

Еще в 2016 году руководитель Беларуси понял, что что-то пошло не так: «Работа {по созданию „Великого камня“} ведется из рук вон плохо».

Тогда же Владимир Семашко в должности вице-премьера обратил внимание на одну из многочисленных проблем проекта: «Парк создавался для того, чтобы туда пришли новейшие технологии, производства пятого, шестого, седьмого технологических укладов. К сожалению, те, кто туда заявился, это не совсем то, что нужно».

Здесь открывается еще один аспект провала: дело в том, что желая заполучить «новейшие технологии» (которые в целом в парк так и не пришли), белорусские власти создали для «Великого камня» льготный режим налогообложения.

В 2017 году руководство страны, пытаясь спасти проект, и вовсе расширило и без того внушительные льготы для резидентов «Великого камня»: произведенные инвесторами товары освободили от "ввозного" НДС, резидентов освободили от уплаты налога на прибыль в течение 10 лет с даты ее возникновения, а также от уплаты налога на недвижимость и земельного налога в полном размере на 50 лет. Для компаний в 10 раз снизили порог вхождения в индустриальный парк: отныне достаточно инвестиций от $ 500 тысяч.

Значительные инвестиции не потекли в «Великий камень» и после этого. А действия белорусских властей в последние два года и вовсе привели к тому, что на проекте следует поставить крест. Инвесторов теперь пытаются заманить в страну, против которой вводятся все новые и новые санкции.

Вспомнить хотя бы об ограничениях со стороны Евросоюза для белорусских самолетов и автоперевозчиков. Теперь мечта о «Великом камне» как о производственном и логистическом хабе между Востоком и Западом выглядит как никогда нереализуемой.

**Дмитрий Косач**
**gazetaby.info**

УКРАІНА

# «ВЫСОКОТОЧНЫЕ» РАКЕТЫ

**Как четырехлетняя девочка погибла в Виннице. Про обстрел мирной Винницы «высокоточными» ракетами.**



На траве перед обгоревшими руинами дома быта «Юбилейный» лежит на боку розовая детская коляска, запачканная кровью. Это была коляска маленькой девочки по имени Лиза.

Четырехлетняя Лиза — одна из троих детей, погибших в четверг в результате российского ракетного удара по центру Винницы.

Ее мать, Ирина Дмитриева, получила тяжелые ранения.

Подтверждена гибель 23 человек в результате этого удара, и восемь все еще числятся пропавшими без вести. Десятки людей по-прежнему в больнице.

Незадолго до ракетного удара Ирина выложила в интернет видео. Был чудесный солнечный день, Лиза улыбалась и толкала перед собой свою розовую коляску, они болтали с мамой о походе к логопеду.

«А мама, она все сердце вложила. Дочка была для нее смыслом жизни. Она безумно ее любила, и я просто не могу представить, какая это трагедия для семьи. Она жила этим ребенком. », - рассказала Би-би-си Валерия Король.

Валерия Король заведует центром для детей со специальными нуждами Logo-Club.

«Девочка была очень умная, очень способная. Она была очень веселая, очень любила к нам ходить. Очень радовалась — девочка очень добрая», — рассказывает Валерия.

У девочки был синдром Дауна, и в аккаунте ее мамы в «Инстаграме» осталось множество фотографий, которые она стала размещать там вскоре после рождения своей единственной дочери. Под первой из них стояла подпись: «Знакомьтесь, это маленький ангелочек Лиза».

Тем утром Лиза, как обычно, тоже пошла с мамой в LogoClub.

Клуб находится всего в квартале от Площади Победы, куда попали ракеты, и сотрудники центра при звуках сирены воздушной тревоги увели детей в укрытие. Но Лиза с мамой, как и многие другие люди, оставались на улице.

Когда началась война, они вернулись из Киева в Винницу из соображений безопасности, потому что город был далеко от линии фронта. Но сегодня в Украине уже нет безопасных мест.

Валерия рассказала мне, что Ирина совершенно не скрывала тот факт, что у девочки синдром Дауна. Она хотела, чтобы люди знали, что такие дети ничем не отличаются от нас, что они очень славные и добрые, говорит Валерия.

В результате этого ракетного удара были убиты также два мальчика.

Семилетний Максим Жарий погиб вместе с мамой Викторией. Жителей их деревни пригласили в пятницу выйти на улицу и проводить в последний путь гробы с их телами.

Про словам украинской полиции, Максим с мамой были на приеме у врача в медицинском центре на первом этаже «Юбилейного». От этой клиники не осталось ничего, кроме обгоревших стен.

Имя еще одного погибшего восьмилетнего мальчика не называется. Он ждал своего дядю в припаркованной машине и погиб, попав под шквал огня от взрыва.

На месте ракетного удара еще остаются остовы выгоревших автомобилей. Взрыв был такой силы, что одну из машин даже обернуло вокруг несущей колонны здания.

Министерство обороны России в пятницу сделало заявление по поводу этого ракетного удара, в котором ничего не говорилось о гибели детей.

Вместо этого утверждалось, что Россия использовала «высокоточные» ракеты и якобы уничтожила собравшихся на заседание украинских военных и иностранных чиновников, которые обсуждали поставки оружия.

По словам логопеда, с которым занималась Лиза, девочка была очень милой и доброй

При этом на месте удара не было ничего, что могло бы это подтвердить.

На самом деле Россия нанесла удар по Дому офицеров на Площади Победы. Однако кроме названия, оставшегося еще с советских времен, в этом доме ничего военного нет.

Там проводятся концерты, и в четверг вечером там должно было состояться очередное шоу. Когда ракеты попали в здание, один из участников группы, которая должны была выступать, настраивал звук. Он скончался в больнице от полученных ран. Другие музыканты получили ранения снаружи здания. В тот вечер в Доме офицеров должна была выступать певица Роксолана со своей группой.

По словам украинских официальных лиц, с начала развязанной Россией войны в Украине погибло 352 ребенка и еще сотни получили ранения. Владимир Зеленский назвал гибель людей в результате этого последнего обстрела актом терроризма.

Мать Лизы Ирина по-прежнему находится в больнице.

«Это ужасно. Ни дети, ни их матери не должны страдать и умирать», — говорит срывающимся голосом Валерия.

«Я не знаю, знает ли уже Ирина про Лизу, рассказала ее семья или нет. Я сама мать, и не представляю, как кому-то можно такое сообщить, я просто не знаю», — сказала она Би-би-си. - «Это ужасная трагедия».

**www.bbc.com**

ПАКАРАННЕ

# ПАЖЫЦЦЁВАЕ ДЛЯ «МЯСНІКА»

**У мінулы чацвер шведскі суд прыгаварыў былога іранскага чыноўніка да пажыццёвага зняволення за ўдзел у масавых забойствах і катаваннях палітычных зняволеных. Гэта першы выпадак у гісторыі, калі іранская службовая асоба была прыцягнута да адказнасці за масавыя зверствы супраць дысідэнтаў.**

Падлятаючы да аэрапорта Стакгольма ў лістападзе 2019 года, былы іранскі чыноўнік 61-гадовы Хамід Нуры, напэўна, нават не падазраваў, які сюрпрыз яго чакае на зямлі. Ледзь не каля трапу яго сустрэў паліцэйскі патруль з пракурорскім ордэрам на арышт.

Здзіўлены іранец даведаўся, што шведская Феміда ўзгадала некаторыя старонкі яго найй біяграфіі ў далёкіх 80-х. Тады Нуры адказваў за масавыя забойства і катаванні палітычных зняволеных у дзвюх іранскіх турмах.

Пра тыя падзеі сёння ўжо амаль забыліся. Між тым, у свой час яны былі ў топе сусветных навінаў, што нядзіўна з улікам колькасці ахвяраў і маштабаў рэпрэсій. Па падліках праваабаронцаў, за пяць месяцаў у 1988-м у Іране былі пакараныя ад 5 тысяч да 28 тысяч палітычных вязняў іранскіх турмаў.

Пераважна гэта былі актывісты «Муджахедзін-э Халк» — ваенна-палітычнай левай арганізацыі, якая выступала за звяржэнне клерыкальнага рэжыму ў Іране і практыкавала нават баявыя замахі на функцыянераў. Некаторыя з ахвяр былі забітыя з-за сваіх рэлігійных перакананняў — таму што яны былі атэістамі або мусульманамі, якія прытрымліваліся не афіцыйнай версіі ісламу.

Людзей забівалі без будзь якой судовай працэдуры, выключна на падставе тайнай інструкцыі ад Вярхоўнага лідара Ірана. У ёй аятала патрабаваў забіць усіх «адступнікаў ад ісламу», у лік якіх запісаў і апазіцыянераў. Як правіла, зняволеных грузілі ў аўтапагрузчыкі групамі па шэсць чалавек і прама ў турмах вешалі на будаўнічых кранах, якія выконвалі функцыю шыбеніц. Праз паўгадзіны трупы здымалі і вешалі новую партыю. Прычым, не шкадавалі сілавікі і жанчын.

Свет быў, мякка кажучы, у шоку. Шмат краінаў назвалі расправу злачынствам супраць чалавечнасці. Засвяціўся ў тых падзеях і Намід Нуры, які менавіта ў 88-м атрымаў мянушку «мяснік» і трапіў у поле зроку праваахоўнікаў. Нарэшце, у 2019-м яны высачылі яго ў аэрапорце Стакгольму.

Безумоўна, у справу тут жа ўмяшаліся іранскія дыпламаты. Прадстаўнік іранскага пасольства ў Швецыі прыбыў у аэрапорт і, спасылаючыся на нейкія міжнародныя пакты, паспрабаваў вызваліць суайчынніка. Але тут высветлілася, што шведскае заканадаўства змяшчае цікавы пункт. У адпаведнасці з ім, мясцовыя суды могуць судзіць як грамадзян Швецыі, так і іншых грамадзян за злачынствы супраць міжнароднага права, учыненыя ў тым ліку за мяжой. Такім чынам, арышт Нуры не супярэчыў шведскаму закону.

Хутка стартаваў і судовы працэс, на якім бок абароны спрабаваў прадставіць падазраванага як звычайнага сціплага чалавека, які ў сілу абставінаў, без асаблівага жадання быў вымушаны выконваць злачынныя загады. У сваю чаргу абвінавачанне абапіралася на сведчанні тых, хто выжыў у крывавай лазні 1988-га. Некаторым з іх нават пашчасціла бегчы з Ірану і атрымаць прытулак у Швецыі. Па іх словах, Нуры прымаў актыўны ўдзел у пакараннях — асабіста заходзіў у камеры і агучваў спісы вязняў, якіх тут жа выводзілі на экзекуцыю.

Нельга прайсці міма аднаго кур'ёзнага моманту падчас працэсу. Адвакаты Нуры спрабавалі давесці, што арышт іх кліента — гэта асабістая помста нейкіх іранскіх апазіцыянераў, якія сфабрыкавалі справу. Аднак аказалася, што «мясніка», што называецца, здаў яго былы зяць. Па нейкіх прыватных прычынах ён меў зуб на цесця і напярэдадні яго ад'езду ў Швецыю праінфармаваў аб гэтым лонданскіх юрыстаў-праваабаронцаў. Тыя перадалі інфармацыю ў шведскі МУС.

Так ці інакш, 14 ліпеня Акруговы суд Стакгольму пастанавіў, што Хамід Нуры, «сумесна і ў змове з іншымі ўдзельнічаў у пакараннях, якія можна разглядаць як сур'ёзнае злачынства супраць міжнароднага права». Дзеянні Нуры дазваляюць асудзіць яго на пажыццёвае турэмнае зняволенне.

Прысуд быў сустрэты пад апладысменты сотняў іранскіх палітэмігрантаў, якія сабраліся ля будынку суда. Сярод іх былі, дарэчы, і тыя, якія правялі ў турмах на радзіме больш за дзесяць гадоў. Зрэшты, некаторым хацелася б, каб прысудам Нуры справа не абмежавалася. Нацыянальная рада супраціву Ірана — апазіцыйная кааліцыя ў дыяспары, заявіла, што «правасуддзе пераможа», калі ўсе вышэйшыя службовыя асобы паўстануць перад судом.

Трэба прызнаць, што справа Нуры яшчэ не скончаная. Судзячы па ўсім, Тэгеран вырашыў не абмежавацца нотамі пратэсту і абраў тактыку гандлю людзьмі. Незадоўга да заканчэння судовага працэсу іранскія СМІ паведамілі, што нейкі шведска-іранскі даследчык асуджаны на смяротнае пакаранне па абвінавачванні ў шпіянажы на карысць Ізраіля. Прыблізна ў той жа час стала вядома, што ў Іране затрыманы шведскі турыст. Пачакаем рэакцыі Стакгольму.

**Сяргей Варончык**
**novychas.online**

**Заснавальнік:** Салодкі Сяргей Аляксандравіч
**Рэдактар:** Шчамлёў Аляксандр Міхайлавіч

**Адрас рэдакцыі:** 211262, Шумілінскі раён, п/а Амбросавічы. E-mail: alex81852@gmail.com Тэл. 3-73-74, маб. +375299870742.
Газета выдаецца з верасня 2000 г.

**Падпісана да друку 28.07.2022 у 19.45**
Наклад: 290 асобнікаў.
Выдаецца адзін-два разы на месяц на беларускай і расійскай мовах.

Рэдакцыя можа друкаваць артыкулы дзеля палемікі, не падзяляючы пазіцыі аўтараў.
Друкуецца пры дапамозе аднадумцаў.
Распаўсюджваецца бясплатна дабраахвотнікамі.